# Штраус адышоў — дух Штрауса застаўся

Адыход заходнегерманскага міністра абароны Франца Штрауса з'яўляецца несумненным доказам нарастаючых супярэчнасцей у кіруючых колах Бон. Гэтыя супярэчнасці вырастаюць на фоне абвастрэння мілітарысцка - рэваншысцкага курсу ў замежнай палітыцы і абмежавання дэмакратычных свабод ва ўнутраных адносінах. Такія тэндэнцыі праяўляюць штораз больш кіруючыя партыі ЦДУ/ЦСУ, узначалены Адэнауэрам і Штраусам. Супроць іх выступае сёння наогул ліберальная Партыя свабодных дэмакратаў. Яна, як вядома, нядаўна ў сувязі з ліквідацыяй штотыднёвіка «Дэр Шпігель» выступіла з урадавай кааліцыі.

Гэты крок ФДП запачаткаваў, практычна беручы, урадавы крызіс, таму што ў апошніх выбарах ЦДУ/ЦСУ не атрымала безагаворачнай большасці галасоў, якія дазволілі б утрымаць аднапартыйны ўрад, як гэта было магчыма да 1961 года. Астаткова зараз Адэнауэр мог бы яшчэ паклікаць т. зв. меншасны ўрад, аднак гэта было б штосьці няўстойлівага. Такі ўрад існаваў бы прынамсі да наступнага года, у якім Адэнауэр мае ўжо перайсці на пенсію. У час апошняга крызісу стары канцлер яшчэ раз паказаў сваю старэчую ўпартасць; ён ахвяраваў самога блізкага свайго прыхільніка, каб толькі не ўступіць і не стрымаць умоў для якіх-небудзь палітычных перамен.

Падзенне Штрауса не адбылося без шуміхі. Яшчэ дзесяць дзён перад сваім адыходам ён крычаў, што не ўяўляе сабе міністэрства абароны без сваёй асобы, яшчэ нядаўна даваў інструкцыі вышэйшым афіцэрам аб перспектывах развіцця Бундэсверы. А канцлеру, які асабіста прасіў у яго рэзігнацыі, адказаў: «Гэта вы, канцлер, павінны даць прыклад».

Штраус адышоў некалькі дзён пасля выбараў у Баварскі ландстаг, якія прынеслі перамогу ЦСУ — партыі ім узначаленай. Гэта сведчыць аб ваяўнічых настроях значнай часткі насельніцтва гэтай краіны. Гэтага хапіла Штраусу на сёння і на будучыню. Трэба ж ведаць, што ён, як кіраўнік ЦСУ, не намерваецца развітацца са сваёй наступальнай дзейнасцю, а перыяд прабывання паза ўрадам хоча выкарыстаць дзеля ўзмацнення сваіх уплываў. Гэта вынікае з актуальных палітычных мэт баварскай ЦСУ. Зараз гэтая партыя дамагаецца, каб пасаду міністра абароны заняў яе прадстаўнік. Высоўваюцца кандыдатуры Егера — намесніка старшыні Бундэстага і старшыні вайсковай камісіі, або дэпутата Гутэнберга — члена камісіі замежных спраў. Аб гэтых двух палітыках можам сказаць, што яны не менш ваяўнічыя, чымсьці сам Штраус. Сведчаць аб гэтым іх выказванні ў час шматлікіх выступленняў на пасяджэннях Бундэстага. Таксама трэці кандыдат гэтай партыі на міністра абароны дэпутат Клізінг, хаця чалавек менш вядомы як палітык, з'яўляецца заўзятым мілітарыстам.

Сёння яшчэ не ведаем, хто астаткова застанецца міністрам абароны ГФР і ці напэўна будзе ім прадстаўнік ЦСУ. Вядомым з'яўляецца, што і саюзная ЦДУ таксама мае зараз апетыт на гэтую пасаду. Не падлягае сумненню толькі факт, што нягледзячы на адыход Штрауса, дух прускага мілітарызму, з такой руплівасцю замацаваны дагэтуляшнім міністрам, будзе і далей развівацца.

А што прынясе бліжэйшая будучыня Францу Штраусу? Лепш паінфармаваныя сцвярджаюць, што Штраус ужо даўно марыць аб пасадзе міністра замежных спраў ГФР. Сёння, калі перастаў быць фаварытам Адэнауэра і калі стаўся ім сучасны кіраўнік замежнай палітыкі Шрэдэр, заняцце гэтай пасады з'яўляецца немагчымым. Ну добра, аднак на будучы год Адэнауэр абяцаў адыйсці, а тады... Тады, як мяркуюць некаторыя, канцлерам будзе Эдгард, а гэты, кажуць, абяцаў Штраусу кіраўніцтва замежнай палітыкай.

Усё сведчыць аб тым, што адыход Штрауса не абазначае яго падзення.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

ДА 1100-Й ГАДАВІНЫ ПОЛАЦКА

# ГОРАД СТАРАЖЫТНАЙ

Полацк — адзін са старажытнейшых беларускіх гарадоў — адыграў выдатную ролю ў фарміраванні беларускай нацыянальнай культуры.

Археалагічныя раскопкі паказваюць, што на месцы сучаснага Полацка ў VII стагоддзі знаходзілася даволі буйнае і багатае пасяленне крывічаў - палачан. Размешчаны на скрыжаванні важнейшых водных шляхоў, горад доўгі час адыгрываў важную ролю ў гаспадарчай, культурнай і ваеннай гісторыі Русі і Полацкага княства. Аб гэтым расказваюць помнікі культуры і мастацтва, якія захаваліся да нашага часу, летапіс рускай і беларускай гісторыі.

Найбольш ранні́м помнікам полацкай каменнай архітэктуры з'яўляецца Сафійскі сабор, які ўпамінаецца ўпершыню ў «Слове аб палку Ігаравым». Узведзен ён у 1044 — 1066 г.г., г. зн. 900 год назад. Ёсць меркаванні, што ў першай палавіне XI стагоддзя полацкі князь Усяслаў Брачыслававіч пачаў будаваць каменны храм замест драўлянага. Будаўніцтва закончыў яго сын Барыс Усяслававіч. Гэты пярыяд найвялікшага росквіту Полацкага княства супадае з барацьбой Усяслава Брачыслававіча з кіеўскімі князямі. Узвядзеннем храма полацкі князь хацеў лішні раз падкрэсліць асаблівае значэнне і магутнасць свайго княства, яго працвітанне і важнасць. Сафійскі сабор па сваіх размерах і багаццю аддзелкі быў трэцім храмам пасля Кіеўскай і Наўгародскай Сафіі.

Сафійскі сабор з'яўляўся і цэнтрам асветы. У храме складаліся летапісныя зводы. Тут жа была створана і працавала школа граматы, пісаліся кнігі і княскія акты. Полацкая Сафія мела багацейшую бібліятэку велізарнай навуковай каштоўнасці. У саборы былі славянскія, лацінскія, а таксама перакладзеныя Кірылам і Мефодзіем грэчаскія кнігі.

У Полацкай Сафіі падпісваліся ўсе дакументы дзяржаўнага значэння. Яна з'яўлялася цэнтрам не толькі рэлігійнага, але і грамадскага і грамадзянскага жыцця. У граматах, што датычаць гісторыі Полацка, нярэдка замест імя горада ўжывалася назва «Святая Сафія». Так, епіскап полацкі, які меў вялікі ўплыў на грамадскія і дзяржаўныя справы, быў не толькі прадстаўніком мясцовай царквы, але разам з тым палітычнай і дзяржаўнай асобай. Ад яго імя нярэдка пісаліся паперы палітычнага характару, напрыклад, звароты да суседніх княстваў па мірных пытаннях. Сафійскі сабор карыстаўся павагай уплывовых асоб рускай дзяржавы. Усе, хто б ні ехаў з Масквы, спыняліся ў Полацку і ў першую чаргу наведвалі Сафію. Храм быў увасабленнем велічы і магутнасці Полацка.

Час змяніў Сафію. Ад першапачатковай пабудовы захаваліся толькі старажытнейшы фундамент і частка алтарных паўкругаў.

Другім цудоўным архітэктурным помнікам старажытнасці з'яўляецца Спаса - Еўфрасіньеўская царква, пабудаваная ў другой палавіне XII стагоддзя па праекту полацкага зодчага Іаана. У манастыры Еўфрасіння Полацкая арганізавала своеасаблівую школу. Тут навучаліся дзеці найбольш прывілеяваных жыхароў Полацка. Яны перапісвалі кнігі, прывезеныя з Візантыі. Паперай для пісьма служыў пергамент. Пер'і, фарбы і паперу дастаўляў з-за мяжы епіскап Ілля.

Аб культуры Полацка гаворыць і параўнальна ранняе паяўленне ў ім друкаваных кніг. Першай такой кнігай была «Цветная Триодь». Полацк даў нашай краіне і выдатных дзеячоў культуры, імёны якіх вядомы далёка за межамі Беларусі. Першым з іх быў Францішак Скарына, ураджэнец, як ён сам гаварыў, «слаўнага горада Полацка». Медык па спецыяльнасці, Скарына быў у той жа час заснавальнікам кнігадрукавання, выдаўцом кніг на беларускай мове, перакладчыкам біблii на старaславянскую мову. Ён друкаваў царкоўна-славянскія тэксты, замяняў славянскія словы больш зразумелымі словамі жывой мовы. Першай кніжкай, выдадзенай Скарыной у Вільні, з'яўляецца «Апостал».

Таленавітым беларускім пісьменнікам, які выйшаў з небагатай полацкай шляхты (1540—1603) быў Васіль Мікалаевіч Цяпінскі. Актыўны змагар за тое, каб несці асвету беларускаму народу, ён зрабіў пераклад евангелля на народную старабеларускую мову для «простага люду» і наладзіў у сябе яе друкаванне. Побач з царкоўна - славян-

З НАВІНАК САВЕЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

# Развянчанне культу Сталіна

Усё больш савецкіх паэтаў у сваіх творах развенчвае культ Сталіна. Пераканаўча паказаў шкоднасць гэтага культу выдатны савецкі паэт Аляксандр Твардоўскі ў высокамастацкай паэме «За даллю — даль», нядаўна з крытыкай культу выступіў на старонках «Праўды» паэт маладога пакалення Яўгені Яўтушэнка ў вершы п. з. «Наследнікі Сталіна», які быў перадрукаваны польскім друкам. Сёння за «Літаратурай і мастацтвам», мы пазнаёмім нашых чытачоў з вершам Валянціна Тараса, які ў не менш моцных вобразах і словах выказаўся на гэту тэму.

ВАЛЯНЦІН ТАРАС

# ВЯРТАННЕ ДА ЧАЛАВЕКА

**Я паўжыцця ахвяраваў на храм,**
**Пакорліва зацягвалася дзяжка,**
**Пайковы хлеб, пайковая махра**
**Ды рухі рук, што дубянелі цяжка...**

**Іскрысты зрок, самкнуты ўпарта рот, —**
**Сабе муруем з мармуру ступені!**
**Але хацеў ён, каб упаў народ**
**Перад вышынным храмам на калені,**

**І каб забыў, што камяні цягаў**
**І дзёўб кайлом каменную пароду...**
**Пакутлівая крыўда і туга**
**Каменнем леглі на душу народу.**

**Над ім павіслі грузна ў вышыні**
**Партрэты бога на франтоне храма.**
**Курадыміла свечка дзень пры дні**
**І плыў салодкі водар фіміяма.**

**Але ва ўсе нялёгкія гады**
**Не траціў муляр чалавечай веры,**
**Што ўзводзіць будзе проста гарады —**
**Не храмы, а звычайныя кватэры.**

**З плячэй нязломных скінуў ён цяжар,**
**Як гаспадар агледзеўся наўкола,**
**Калі патух кадзільняў дымных жар**
**І рухнулі вусатыя іконы.**

**З палёгкаю ўздыхнуўшы, ён нясе**
**Шурпатаю рукой паходню века.**
**Вяртаемся да Ільіча мы ўсе,**
**Ад бога — назаўжды да Чалавека!**

Пераклаў з рускай **П. МАКАЛЬ**

# Спорт

Нягледзячы на заканчэнне сезона, футбол не сходзіць са старонак газет. Не паспелі мы дастаткова перажыць паражэння зборнай краіны ў Паўночнай Ірландыі, а ўжо яна разгромлена ў Мілане камандай Інтэрнацыянал. Зборная нашых юніёраў прайграла ў Будапешце. А ў матчах на Кубак Польшчы неспадзянка за неспадзянкай. Ужо 9 каманд II лігі выбыла са спаборніцтва. Вывялі іх ніжэйшыя класы. Сапраўдным майстрам у гэтай справе аказаўся Глівіцкі Ёвіш. Гэтая Б-класавая каманда выйграла з II-лігавай Сталлю Мелец, як бы там не было, камандай, якая яшчэ некалькі месяцаў таму гуляла ў I лізе. У савецкім футболе больш спакойна. Вядучыя каманды выехалі на заграгнічныя ваяжы і паспяхова там выступаюць, быццам іх нічога і не абыходзяць магутныя спрэчкі аб праекце федэрацыі футбола, якія набіраюць усё большага накалу. Ужо каля 5 тыс. лістаў атрымаў з гэтага выпадку «Советский Спорт». З апублікаваных ім лістаў прыгнятаючая колькасць дыскутантаў выступае за змены ўжо ад 1963 года.




## Кашмарны план Бертгольда

— Галоўнага чалавека, які мог бы выявіць тайну, ужо няма, — сказаў Бертгольд. — Астаўся сам завод і людзі, якія на ім працуюць...

— Што вы хочаце з імі зрабіць? — спытаў Генрых.

— Сёння ноччу, не пазней, і завод, і людзі перастануць існаваць, — з халоднай жорсткасцю сказаў Бертгольд. — Сёння ноччу, бо заўтра будзе ўжо позна. Заўтра Лігурыйскі фронт капітулюе...

286

Твае часці ахоўваюць гідраэлектрастанцыю і грэблю?

— Два ўзводы чорнасарочнікаў.

— Сёння пасля камендацкай гадзіны змяні ахову грэблі. Нанач пастаў толькі нямецкія часці. Чыста нямецкія, разумееш?

— Будзе выканана!

— Зараз я памыюся з дарогі, крыху адпачну, а на чатырнаццатую гадзіну ты пакліч сюды Лемке, Штэнгеля і Кубіса.

Генрых выйшаў у пакой, дзе жыў Курт. Той стаяў каля акна, бледны і ўсхваляваны.

— Што з табою, Курт? — здзівіўся Генрых.

— Гляньце! — Курт паказаў на вароты замка. Каля іх стаялі тры здаравенныя эсэсаўцы.

— І з гэтага боку, і з гэтага! — бегаў ад акна да акна Курт, паказваючы на ўсё новых і новых эсэсаўцаў — аўтаматчыкаў, што акружылі замак.

— Ну і што з таго? — сціснуў плячыма Генрых.

— Дык яны тут толькі таму, што ў замку генерал Бертгольд, якога яны ахоўваюць!

— Але яны нікога не выпускаюць з замка!

Што гэта мае значыць? Генрыху не хацелася лішняй цікавасцю насцярожыць Бертгольда. Ён добра бачыў змену ў адносінах генерала, і гэтая змена пакуль нічога добрага не абяцала. Праўда, заўтра яны маюць адсюль выехаць, але прапанова Бертгольда абмяняцца запаветамі не падабалася Генрыху. Нешчаслівы выпадак у дарозе, ад якога

287

Бертгольд хацеў застрахавацца сябе на два мільёны марак, што належалі Генрыху, мог стацца не толькі з віны партызан, а і з дапамогай самога Бертгольда, калі ў яго кішэні будзе ляжаць даручэнне, адрасаванае Швейцарскаму банку. Але што ён хоча зрабіць з грэбляй? Чаму не выпускаюць людзей з замка? Няўжо ў апошнюю ноч маюць здарыцца нейкія падзеі? А ўсё-такі шкада старога Лера! Кубіс інсцэнізаваў параліч сэрца, хоць ведаў усю бязмэтнасць смерці Альфрэда. Дык копіі чарцяжоў ужо ляжалі ў яго кішэні...

— Навокал замка сапёрная часць праводзіць нейкія работы! — сказаў Курт.

Генрых кінуўся да акна, што выходзіла на панадворак.

— Табе прыснілася хіба. Я нічога не бачу...

— Не там, не там! У парку!

Сапраўды, у парку салдаты сапёрнай часці свідравалі скалу.

Генрых збялеў.

— Курт! — звярнуўся ён да дзяншчыка, — дзе цяпер Лідзія?

— Не ведаю!

— Кажы праўду! Я ведаю, што ты дапамагаеш ёй. Гэта ты, даведаўшыся ад мяне пра адпраўку салдат-італьянцаў, сказаў ёй, а яна папярэдзіла партызан. Гэта ты даведаўся пра пагрозы Лемке і папярэдзіў яе. Я ўсё ведаю, Курт, і... хвалю цябе

288

 

# IV Агульнапольская навуковая канферэнцыя студэнтаў Медыцынскіх Акадэмій у Беластоку

Ад 23 да 25 лістапада ў Беластоку працягваліся працы IV Агульнапольскай навуковай канферэнцыі студэнтаў Медыцынскіх Акадэмій пад пратэктаратам Рэктара Праф. дра Людвіка Камчынскага. Гэтае сур'ёзнае мерапрыемства згуртавала прадстаўнікоў рада медыцынскіх акадэмій у Польшчы. Тут з прыемнасцю адзначаем, што найбольшую колькасць дакладаў — 10 — прадставіла Беластоцкая Акадэмія; Варшава і Лодзь па 7 дакладаў, Кракаў і Люблін па 6, Шчэцін — 2, Познань, Гданьск і Ракітніца па аднаму дакладу. Врацлаўская Акадэмія, хаця і прымала ўдзел у канферэнцыі, аднак не прадставіла ніводнага даклада.

Гаспадар гэтай канферэнцыі — Беластоцкая Акадэмія — вылучаецца асабліва інтэнсіўным рухам сярод студэнцкіх навуковых гурткоў, якіх колькасць на працягу апошніх трох год узрасла з 3 да 18. Найбольш плённую навуковую дзейнасць разгортваюць студэнты на Аддзяленні радзільным і жаночых хвароб.

Доказам папулярнасці гэтай канферэнцыі з'яўляецца ўдзел у яе працах дэлегатаў з медыцынскіх акадэмій у Венгрыі, Югаславіі, Балгарыі і Чэхаславакіі.

Эмка

# РАЗЛІЧЫЛІСЯ

Некаторыя радныя ў ГРН Пілікі, Бельскага павета, ужо даўжэйшы час зусім не цікавіліся працай рады. Яны адсутнічалі ў сесіях ГРН, не прымалі ўдзелу ў працы паасобных камісій. Справы грамады сталіся ім абыякавымі. Гэтыя радныя не апраўдалі даверу сваіх выбаршчыкаў, і таму пацікавілася імі мандатная камісія. Праведзена была гутарка з паасобнымі раднымі, і ў выніку гэтага чатырох радных вызвалілі ад абавязкаў. На іх месца паклікалі намеснікаў. Сітуацыя адразу змянілася. Новапаклікaныя радныя вельмі актыўна ўключыліся ў працу рады.

(вб)

## Калі гаспадарыць, дык з разлікам

# ГЭКТАР ЦЫБУЛІ І... ГАСПАДАРКА

На ўскраіне Сакольшчыны, пасярод пагоркаў, знаходзяцца вёскі, да якіх у час вясенняй ці асенняй бездарожжыцы цяжка дабрацца. Гэта — Верхні Уснар, Піражкі, Юраўляны, Мінкаўцы. Асабліва восенню наглядаецца тут ажыўлены рух і заўзятыя суседскія гутаркі аб... цыбулі. З кожным годам узрастае лік гаспадароў, якія прымаюцца за вырошчванне гэтай горкай і «слязлівай» расліны.

Яшчэ два гады таму назад на тэрыторыі ўсяго павета закантрактавана 35 тон цыбулі. У 1961 годзе закантрактавана ўжо 55 тон цыбулі, а ў бягучым годзе — 300 тон. Цыбуля пачынае свой трыумфальны паход па сакольскай зямлі. Таямніца гэтага паходу заключаецца ў высокіх даходах яе плантатараў.

Сярэдні ўраджай цыбулі ад 150 — 500 цэнтнераў з гектара. Вядомымі яе знаўцамі з'яўляюцца — Іосіф Пятраш з Юраўлянаў, Эйсманты з Верхняга Уснара; Анісімовічы, Бяганскія, Антон Савіч з мястэчка Крынкі; Іван Лотыш з Астроўка. Дабіваюцца яны ўраджаяў па 400—500 цэнтнераў з гектара. Таму нават пры мінімальнай цане 3,50 зл. за кілаграм і сярэдняй ураджайнасці 250 цэнтнераў з гектара атрымоўваюць агульны даход у 87.500 зл.

А выдаткі наступныя:

— кошты насення і прэпарата Альвіт каля 3.700 зл.

— кошты інспектаў (на 48 акон) каля 6.000 зл.

— кошты апрацоўкі глебы і ўгнаенняў каля 3.750 зл.

— кошты пасадкі, догляду, абсталявання і транспарту каля 6.850 зл.

Разам кошты не большыя чымся ў 21 тыс. зл. Чысты даход хіба лёгка палічыць...

Зразумела, даход узалежнены ад ураджайнасці і абавязваючых цэн. Можна яго акрэсліць сумаю 40—150 тыс. зл. з гектара.

Вышэй прыведзеная прыблізная калькуляцыя і выясняе нам поўнасцю таямніцу папулярнасці цыбулі на Сакольшчыне. У сучасны момант значныя яе колькасці высылаюцца таксама заграніцу.

Цыбуля дасканала расце на пшанічна - бурачаных глебах — не заквашаных, запушчаных. Найлепшыя вынікі пры вырошчванні цыбулі можна атрымаць у гады аб ранняй вясне, але з працяглымі халадамі і перыядычнымі дажджамі. Не церпіць яна вялікіх колькасцей азотавых угнаенняў (не заламліваецца шчыпёр пры засыханні ў канцы лета).

Сакольскі павет характарызуецца асабліва спрыяльнымі кліматычнымі ўмовамі. Адзін гектар добра дагледжанай цыбулі можа даць значна большы даход чымся сярэдняя сялянская гаспадарка.

МІКАЛАЙ ГАПУНІК

# ДОЛАРЫ ЗА ЖОЎТУЮ ПЛІСКУ

(Працяг са стар. 1)

Крыху купілі. Спадабалася. Цяпер купляюць ахвотна, ды не толькі яны. Заходняя Германія таксама.

— Праўда, цікава. А галоўнае, што для нас карысна. Вось і яшчэ адзін доказ, што часта самі не ведаем, што маем.

— Працягваючы нашу размову хачу звярнуць увагу, што адной з галоўных пазіцый нашага экспарту па колькасці з'яўляюцца грыбы — пліскі — салёныя і свежыя.

— У нас яны не надта славяцца, чарнагаловы баравік вось...

— А за граніцай наадварот. За тону там плацяць у сярэднім 700 доляраў у дэвізах, бывае што і па 1000 доляраў.

— Варта тады самім есці баравікі, а заграцічным панам прадаваць пліскі.

— Мы поўнасцю на ўслугі. Нашаму прадпрыемству абы больш грыбоў і ягад. Ягады ў гэтым годзе не ўрадзілі, і мы замест запланаваных 450 тон свежай чарніцы выслалі 298,5 тон. Паратавалі нас у бядзе грыбы і ў канцы канцоў план перавыканалі. Агульная вартасць нашага экспарту ў гэтым годзе раўняецца 13 мільёнам 380 тысячам злотых. Аднак і запатрабаванні і план з кожным годам узрастаюць, таму і збор і дастава лясных прадуктаў павінны таксама ўзрастаць. А гэта ўжо ў многім залежыць ад людзей.

— А як выглядае збіранне і скуп?

— Існуюць пункты і раёны, якія займаюцца скупліваннем ягад і грыбоў. Пункты «Лесу» ёсць і павінны быць у кожнай прылясной вёсцы, каб людзі маглі хутка ў свежым выглядзе даставіць нам ягады ці грыбы. Гэта вельмі важна. У сезоне, мы лічым, збіраннем займаецца 5—7 тысяч асоб, пераважна дзеці, старыя, жанчыны. Дзённы заробак такога збіральніка вагаецца ад 70—100 злотых. У гэтым годзе нашым дастаўцам мы выплацілі 30 мільёнаў злотых.

— Чаму побач з мароженымі высылаеце і жывыя зайцы? Каму і навошта яны спатрэбіліся?

— На расплод. Напрыклад, Францыя высока цэніць нашых зайцаў як гадаўляны матэрыял.

— Вы на пачатку ўспомнілі пра плантацыі ружы. Навошта яе гадуеце, хіба толькі таму, каб упрыгожвала краявід і жыццё.

—Не, не для таго, хаця і гэта важна. Лепясткі ружы, як вядома, маюць застасаванне пры вырабе цукерак. Мы іх дастаўляем на краёвыя патрэбы. 12,5 тоны пладоў дзікай ружы ў гэтым годзе прадалі за граніцу. Хіба на лякарства, таму што плады гэтыя маюць найбольш вітаміну С. Найбольшыя ружаныя плантацыі маем у Сакольскім павеце. Даходзяць да 25 гектараў.

— Працягнулася наша размова. Чым яе закончыць? Вашае жаданне, калі не памыляюся, каб...

— ...Больш лясных багаццяў людзі нам дастаўлялі. Карысць з гэтага для ўсіх вельмі шырокая.

—Запісала. Дзякую за цікавую размову.

ВЕРА ЛЕЎЧУК

# ГАЙНАЎСКАЯ ТРА



Яны пажаніліся ў 1956 годзе.

Спаткаліся ў ПГР-ы Кацлаўка, што ў Альштынскім ваяводстве. Трактарысту Івану Супруну спадабалася працавітая Зофія Міранчук. Штораз вынаходзіў прычыны, каб пажартаваць, пагаварыць. Маладыя людзі, маладое жыццё. Неўзабаве вярнуліся на родную Гайнаўшчыну. Закаханыя. На іх шлюб і вяселле збегліся дзяўчаты і хлопцы. Вабіла звонкая музыка, танцы, раздольныя песні.

Ён паступіў на працу ў нарваўскі ПОМ. Пасяліліся ў жыллёвым бараку, кухню ад пакойчыка адгарадзілі... шафаю і каляровай заслонаю. Побач іконы шарэнга макатак з лебедзямі, галубамі і другім птаствам, ружовы партрэт маладажонаў. Радасць прыйшла пазней, праз год. Нарадзіўся сын! Генікам назвалі. Былі хрэсьбіны, папіліся бабы, мужчыны бойка віншавалі. Пасля паявіўся на свет белы Ваня, а тры гады таму назад да піску дзетвары далучылася аўканне Віці. Цяпер вялікі ўжо з яго хлопчык, усё хоча ведаць - знаць...

Іван Супрун у раз'ездах. Ранюсенька снедае, вяртаецца дамоў позна, абедае і вячэрае за адным махам. Зофія абмывае крыклівых малышоў, корміць. Заціхае ля стала, есць сама. Прыбірае хату, выходзіць купіць сёе-тое. Просіць суседак наглянуць за дзяцьмі.

Адзін дзень Зофінага жыцця падобны да другога, учарашняга. Год складаецца з 366 дзён, а жыццё? Го-го, не зрахаваць. Час ад часу прыхварэе Генік або Віцька; часамі муж прыдзе не ў настроі. От, сям'я, якіх тысячы.

Нарва не вёска. На прысвятку Іван прамовіць: — Кажуць, кіно добрае высвятляюць. Тады цырымонна апранаюць найлепшае адзенне і ідуць. Чорная будыніна кіно здалёку моргае адзінокай электрычнай лямпачкай над уваходам. Асвятляе клятчастыя шапкі, капелюшы, капелюшыкі выфранчанага натоўпу. Беляціць на сцяне плахтаватая афіша, колюць гладкія, быццам выструганыя, словы аб нейкай доктаравай лекцыі ў бібліятэцы наконт свядомага мацярынства. — «Запрашаем усіх»... — крадком чытае і адчувае, як чырванее твар. Глядзіць пад ногі. Здаецца, тлум заходзіцца ад смеху. Так здаецца, бо мужыкоў голас спешна дыхае ў шыю: — Маю білеты, хадзем! Праціскаюцца ў залу, сядаюць. Пазірае па баках, суседзі занятыя размовамі; маткі следзяць за дочкамі, дочкі за кавалерамі. Спакайнее на душы. Зашумелі падросткі і ўмомант падумала аб кватэры, што ў пяцісот метрах адсюль. Дзіўна. Бы на яве бачыць сенцы, калідор, у якім гойсаюць малалеткі з цэлага будынку і залатаныя дыктаю дзверы. — Там жывем. Раптам зрабілася душна, заскакала сэрца. Дакранулася жывата. — Я цяжарная. Што рабіць? Што?! Будзе чацвёртае дзіця... чацвёртае! У гэткай цеснаце . Божа!.. Скажу Івану, заўтра скажу... Гаснуць агні, хілком убягаюць спозненыя. Утаропіліся на серабрысты загаловак фільма.

Аднойчы, перад святам, Шкаплернаю званым, загаварыла:

— Паеду ў Гайнаўку за пакупкамі.

— Едзь, — адказаў жонцы Іван і пакрочыў на работу, вазіць каменні з Новай Волі для будовы дарогі ў Ляневе.

Вярнуўся ўвечары і пытае:

— Геню, дзе мама?

— Паехала мама.

* * *

У той жа вечар, 18 ліпеня г.г. у пакоі дзяжурнага афіцэра Павятовай камендатуры міліцыі ў Гайнаўцы адазваўся тэлефон. Званіў стораж хімічнай фабрыкі. — Міліцыя? Слухайце, пры вуліцы Вызвалення 24 памерла невядомая жанчына.

Стрэлкі гадзінніка паказвалі на палавіну дзевятай. Службовая машына востра затармазіла непадалёк жыллёвага барака, што стаіць каля чаромхаўскай чыгункі. У дзвярах кватэры Ліды Усіцярак мітусіліся людзі. Гэта тут здарылася няшчасце. Крымінальны тэхнік і лекар уваходзяць у пакой. Перапалоханая гаспадыня — кабеціна звыш трыццаці год — не ведае, дзе падзець рукі. На тапчане пад сцяною ляжыць труп у квяцістай сукенцы, ногі раскінуты. Мёртва глядзіць у столь. Сяржант Аляксей Брэнька праводзіць рэвізію. Па закутках поўна розных бутэлячак з лякарствамі, пачкі таблетак, на стале іназемцавыя кроплі. Валяецца дзве-тры гумовыя руркі. Вось стаіць падарожная торба, а ў ёй тры галоўкі капусты, два кавалкі мяса, хусткі, пернікі, дэлікатэсы і... легітымацыя «убеспячальні». Міліцыянт нецярпліва гортае карткі, слепіцца над нязграбна напісанымі літарамі: Іван СУПРУН, пражывае ў Нарве... жонка Зофія, дзеці — Яўгені, Іван, Віталі. — Ясна!

З беластоцкага закладу судовай медыцыны неадкладна прыбыла лекар Грамадская. Праводзіць секцыю. Сцвярджае, што смерць наступіла раптоўна, бо сэрца ўпампавала ў сябе многа паветра, якое дайшло праз пашкоджаную жылу. Прытым адкрыла, што Зофія была ў чацвёртым месяцы цяжарнасці, знойдзена пару блізнючкоў.

Следства ў разгары. Атрымалі паведамленне, што Усіцярак, маці чатырох малых дзяцей, пастаянна запівалася са сваім мужам Уладзіславам. А каб мець грошы на п'янкі ўжо ад некалькіх год патаемна робіць аборты. У цане не ўпартая. Патрабуе па 500 злотых, але калі дадуць 200 або 300 зл. дык таксама задаволена. Першыя сведкі самі прышлі да міліцыі, пераважна суседкі, якія грызліся з ёю. Надабрыдла лаяцца. Жэня С. прыпамінае: — Неяк заглянула да нас Усіцярак. Спачувала, што яшчэ дзіцё маленькае, а, відаць, другое хутка будзе. «Зайдзіце, — запрашала, — паратую вас, дорага не вазьму»... Я не паслухалася. Затое бачыла, як у торговыя серады часта прыходзілі да яе маладзіцы. Адну з іх вывелі пад пахі, узвалілі на воз. Браніслава М. злуецца: — Чаму панесла мяне да гэтай дамарослай акушэркі? — Таму, каб людзі не брахалі — звяхкалі. Каб было ціха-ша-а! — Ці памагло? — Адкуль жа! Боль страшны бразгнуў аб падлогу. Выклікалі карэтку. Тыдзень у бальніцы праляжала. Лекары ляпей справіліся з бядою. Пыталі, да каго хадзіла. Дудкі, не сказала. — Чаму раней не звярнулася ў клініку? — Дзівак! Звярталася, адбылася размова чэсць - чэсцю, ды муж не згаджаўся



 

# Трыбуна чытачоў

## Увага, чытачы!

**Ужо ад новага года пачнем друкаваць новую хвалюючую аповесць пра савецкіх разведчыкаў. Раім загадзя забяспечыцца «Нівай». Гэта зрабіць вельмі лёгка. Як вядома, падпіску на наш тыднёвік прымаюць усе паштовыя ўстановы і пісьманосцы. Дык не адкладайце на заўтра таго, што можна зрабіць сёння. Пошта і пісьманосцы чакаюць. Чакаем і мы!**

## Узнагароды за наш конкурс

За ўдзел у нашым конкурсе п.з. «Якую хочаце чытаць аповесць у 1963 г.?» узнагароды (камплект 55 каляровых рэпрадукцый Трэцякоўскай галерыі плюс кніжка на выбраную тэму) вылясавалі: **В. Будзько** (Варшава), **Дзмітры Садоўскі** (Тынявічы Вялікія, Гайнаўскі павет), **Аляксандр Харкевіч** с. Аляксандра (Ляшукі, Гайнаўскі павет), **Васіль Астапкевіч** (Тынявічы Вялікія, Гайнаўскі павет), **Францішак Берніковіч** (Седліска, Альштынскае ваяводства), **Янка Цялушэцкі** (Новае Ляўкова, Гайнаўскі павет), **Янка Бура** (Тарнопаль, Гайнаўскі павет), **Уладзімір Трыгарук** (Бельск), **Міхаіл Харыла** (Жэдня, Беластоцкі павет), **Сцёпа Грыгарук** (Гаrange, Бельскі павет), **Славамір Садоўскі** (Тарнопаль, Гайнаўскі павет), **VIIа пачатковай школы ў Орлі** (Бельскі павет), **Яніна Звежыньска** (Гарадок, Беластоцкі павет).

Узнагароды высланы поштай.

## Шукайце ў наступным нумары

У наступным нумары «Нівы» будзе аб'яўлен новы цікавы конкурс, які арганізуе ГП БГКТ і наша рэдакцыя. На ўдзельнікаў конкурсу чакае шмат вартасных узнагарод. Тады ўважліва сачыце за наступным нашым нумарам.

## Аматар роднага слова

Бібліятэчны пункт у Ляшуках змяшчаецца ў хаце Сяргея Харкевіча. Бібліятэкарам з'яўляецца сам гаспадар. Гэты старэйшы ўжо мужчына вельмі любіць кніжкі. У яго бібліятэцы каля 200 кніжак, у тым шмат беларускіх. Але ў яго даволі вялікі клопат — прачытаў усе свае кніжкі і не мае чаго чытаць. З клопату выратавала яго школьная бібліятэка, якая сваімі фондамі дазваляе дзядзьку Сяргею папоўніць веды па беларускай літаратуры. Дзядзька Сяргей акуратна таксама выпісвае «Ніву». У яго нават захаваўся першы нумар тыднёвіка.

**Аляк Харкевіч**

## Ці ж не сорамна вам, Лясняне

У вёсцы Лесна (Гайнаўскі павет) зусім дрэнны брук. У дажджлівыя асеннія дні нельга сухою нагою перайсці праз Ляснянскую вуліцу, усюды лужыны і вязкае балота.

Хаця Лесна вёска не малая, але аб закладцы бруку тут ніхто нават не падумаў. А здаецца жывуць тут дбайныя людзі. І дзіўна тады, што яны не звяртаюць увагі на гэтыя непарадкі ў сваёй мясцовасці.

Тым часам жыхары суседніх вёсак, напрыклад, Альхоўкі ці Бабі Гары, аказаліся больш гаспадарлівымі. Дзякуючы іх клопатам і дапамозе мясцовых улад абсталявана тут новы брук. Ці ж не сорамна Вам, Лясняне?

**Юрка Скепка**
Альхоўка

## Скарга закінутай вёскі

Вёска Ахрымы, Гайнаўскі павет, належыць да ліку закінутых. Аступіла яе густой сцяной Ляцкая пушча. І калі лес шуміць неяк спакойна і сумна, то і гэтак жа жывуць тут людзі. Толькі выручае іх яшчэ кніга і газета. Моладзь выехала часткова ў горад на сталае жыхарства ці навуку. Тут яе мала. Каб было электрычнае святло, то жыхары гэтай вёскі купілі б радыёпрыёмнікі. Тады хоць святы можна было б весялей правесці. Цяпер маладыя людзі збіраюцца ў якім - небудзь доме і граюць да поўначы ў карты. Гэта адзіная забава, якая набрала энтузіязму і ахапіла прылясную ціхую вёску Ахрымы.

У суседнюю вёску Ляўкова прыязджае кінаперасоўка два разы ў месяц. Тады з Ахрымоў ідзе многа людзей. Моладзь вёскі Ахрымы дагэтуль не паставіла ніводнай п'есы. А ці тут не можна было б арганізаваць вечарыну, або паставіць кароценькую п'есу? Слова аддаю пад абшырную развагу саміх дзяўчат і юнакоў вёскі Ахрымы.

**Янка Цялушчэцкі**
Новае Ляўкова

## ТОЛЬКІ ДЛЯ ЗАКАХАНЫХ

## Сардэчныя тайны

**Дарагое СЭРЦАЙКА!**

**Я вельмі нешчаслівая. А і сорамна да Цябе пісаць. Толькі бяда прымушае мяне прызнацца Табе ў сваёй таямніцы.**

**Мне мінула нядаўна 19 год. Жыву з бацькамі і малодшай сястрой. Ужо некалькі месяцаў прыязджае да нас кіно (раз у месяц). З ім прыязджае адзін з абслугі кіно, прыгожы хлапец. Казаў, што ён называецца Славэк. Калі яны былі ў канцы верасня, ён пасля фільма адвёў мяне дахаты. І вось тады сталася маё няшчасце. На пачатку кастрычніка я пераканалася, што цяжарная. Калі ён прыехаў ізноў да нас (а гэта было ў канцы кастрычніка), дык і тым разам адвёў мяне дахаты. Сказаў, што я яму падабаюся. Я хацела сказаць аб гэтым Слаўку, але і баялася сказаць і не ведала як пачаць. І так ані Славэк, ані мае бацькі не ведаюць аб маім няшчасці. Ведаю, што калі скажу бацькам, дык выжануць мяне з хаты, бо такі ж сорам, а да таго я ж маю малодшую сястру. Сэрцайка, скажы, што мне рабіць, бо ўжо страшныя думкі прыходзяць у галаву. Чакаю з нецярплівасцю твайго шчырага адказу.**

**Жэня**
**з Беластоцкага павета**

**Дарагая Жэня. Ты сапраўды знаходзішся ў цяжкай сітуацыі. Вінавата тут Твая лёгкадумнасць, бо Ты ж толькі 2 разы бачыла Слаўка, і нічога, апроч яго імя, аб ім не ведаеш. Але каяцца ўжо позна, трэба сур'ёзна падумаць над далейшым. Раю Табе абавязкова і неадкладна сказаць аб гэтым Слаўку, калі ён у найбліжэйшы час прыедзе да вашай вёскі з кінаперасоўкай. Скажы яму ўсё шчыра. Пішаш, што ён выглядам на 25—28 год, а Табе 19. Дык у такім выпадку нічога не выпадае, як запрапанаваць Слаўку, каб жаніўся з Табой, а ў першую чаргу раю даведацца што гэта за чалавек, а мо' ён жанаты? А калі знойдзецца якая-небудзь сур'ёзная перашкода, дык Ты павінна як найхутчэй паехаць да лекара-гінеколага, і калі лекар прызнае, што нічога не пагражае твайму здароўю — перарваць цяжарнасць. Каб гэта зрабіць, мусіш прызнацца маці, якая напэўна дапаможа Табе. Але глядзі, зрабі гэта як найхутчэй, каб толькі не было позна.**

**СЭРЦАЙКА**

## Апраўленне вёскі

Шмат хто гаворыць, што Камень (Гайнаўскі павет) — гэта глухая вёска. Няпраўда! Цяпер у Камені правялі электрычную лінію. У хатах людзей свеціць электрычнае святло. Ёсць сямікласная школа. У кожнага грае радыё. Ёсць крама. Пабудавалі новы брук і ўлажылі ходнікі. Абапал бруку пасадзілі маладыя дрэўцы. Ёсць злеўня малака. У кожнага гаспадара гумовы воз, шмат матораў. Многа новых будынкаў. Цяпер людзі з акалічных вёсак зайздросцяць, што Камень вельмі прыгожы, што ў яго гарадскі выгляд.

**Анатоль Дмітрук**
Камень

Ніва

**Adres redakcji:** Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
**Telefony:** red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
**Warunki prenumeraty:** miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $, w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000. Błtk F-3

# КІНО

**Праграма на 10—16.XII.1962 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Koncert gwiazd" (radz.), 11—13. „Komedianty" (polski), 14—16.

**Кляшчэлі**
„Trzecia licealna" (włoski), 10—13. „Jutro premiera" (polski), 14—16.

**Навасады**
„Tata, mama, córka i zięć" (radz.), 15—16.

**Нараў**
„Rzeczywistość" (polski), 12—16.

**Нараўка**
„Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 12—16.

**Чаромуха**
„W krainie białej czapli" (węgierski), 10—13. „Za wami pójdą inni" (polski), 14—16.

**Чыжы**
„Herszt" (franc.), 12—16.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Drzwi stoją otworem" (jugosłowiański), 12—16.

**Бранск**
„Śladami Ikara" (radz.); 11—13. „Dom bez okien" (polski), 14—16.

**Гродзіск**
„Miasto bez wody" (radz.); 15—16.

**Орля**
„Gorsza miłość" (węgierski), 12—16.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Champion (USA), 12—13. „Jutro premiera" (polski), 14—16.

**Міхалова**
„Mały marzyciel" (radz.); 11—13. „Z iskry rozgorzeje płomień (radz.), 14—16.

**Супрасль**
„Futrzany gang" (angl.); 11—13. „Rok przestępny (radz.), 14—16.

**Чорна Беластоцкая**
„Z soboty na niedzielę" (angl.), 10—13. „Noc poślubna" (polski), 14—16.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Marynarzu strzeż się" (angl.); 10—13. „Rzeczywistość" (polski), 14—16.

**Мілейчыцы**
„Marcin w obłokach" (jugosł.); 11—13. „Bestia" (węgierski), 14—16.

**Нурэц**
„Sprawcy nieznani" (włoski); 10—13. „Katastrofa" (węgierski),

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Wszędzie żyją ludzie" (czeski); 11—13. „Tragiczny zamach" (jugosłowiański), 14—16.

**Сухаволя**
„Pragnienie" (rumuński), 11—13. „Jak się młody Noszty żenił" (węgierski), 14—16.

**Шудзялава**
„Kłopoty z miłością" (NRD); 12—16.

**Янаў**
„Uskrzydleni" (NRD); 11—13. „Żebro Adama" (USA), 14—16.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 15—16.

**Новы Двор**
„Tu radio Gliwice" (NRD), 14—16.

**Ружаны Сток**
„100 kilometrów" (włoski), 15—16.

(Працяг са стар. 3)

атакаваць завод, бо ў іх некалькі станкавых кулямётаў.

— Хопіць! — крыкнуў генерал. — «Атакаваць!» А на якога чорта мы будзем іх атакаваць, калі за некалькі гадзін мы іх патопім, як пацукоў.

Бертгольд выцягнуў з кішэні карту раёна Кастэль ла Фантэ і разгарнуў яе на стале.

— Дык вось, — пачаў ён спакойна, — за тры кіламетры ад Кастэль ла Фантэ маем грэблю трыццацідвухметровай вышыні. За ёю вялікае штучнае возера, у якім, на думку фахоўцаў, хопіць вады, каб праравўшыся праз высаджаную ў паветра грэблю, затапіць... у працягу паўтары гадзіны ўсю гэту даліну, а з ёю завод і ўсіх, хто там знаходзіцца. Але нам трэба спыніць выхад вады з даліны карытам рэчкі. Як бачыце, яна найвужэйшая тут, каля замка. Вось жа, калі высадзіць у паветра скалу, на якой стаіць замак, то руіны перагародзяць рэчку.

Званок ад Кубіса спыніў размову. Кубіс прасіў дапамогі, баючыся вылазкі паўстанцаў, якія ўзмоцнілі агонь.

— Зняць з грэблі адзін узвод чорнасарочнікаў і даць яго на падмогу гэтаму панікёру! — загадаў генерал.

Генрых перадаў распараджэнне.

— Грэблю высаджваем у паветра а дваццатай трыццаць. За дзесяць хвілін перад гэтым скала і



замак маюць перагарадзіць шлях вадзе. Чуеце, Лемке, вы за гэта адказваеце! Ахову грэблі перад выбухам ты возьмеш на сябе, Генрых. А вы, Штэнгель, прымеце ад Кубіса камандванне часцямі, якія акружаюць завод. Ваша заданне не дапусціць, каб выратаваўся хоць адзін чалавек з завода. Тых, што выплывуць на паверхнасць, трэба будзе расстрэльваць. Зразумела ўсім?.. Пытанні будуць?

Прысутныя маўчалі, прыбітыя планам Бертгольда.

— Колькі асоб працавала на заводзе? — спытаў генерал Штэнгеля.

— Дзве тысячы трыста восемдзесят палонных і сто сорак два нямецкіх інжынераў і наглядальнікаў.

— Гер генерал, дазвольце звярнуцца? — голас Штэнгеля хрыпеў. — Замак належыць графіні Рамоні — маёй нарачонай, гэта пасаг... Я прашу...

— Ведаю. Лес рубаюць, трэскі ляцяць, маёр! Цяпер не пра нарачоную думаць трэба. Бярыце прыклад з мяне. У замку мой сябра, стары граф Рамоні. А я яго нават не папярэджваю... Ідзіце!

Адзеравянеўшай хадою Штэнгель накіраваўся да дзвярэй. Яго мара пра багацтва развеялася, бы дым.

— Вось цяпер, Генрых, давай адпачнем, бо гэтай ноччу нам спаць не давядзецца, — запрапанаваў Бертгольд.

— А калі мы з вамі зможам ехаць? — спытаў Генрых.



— Неадкладна пасля выбуху! Неадкладна! Хай Лемке і Штэнгель дакончваюць работу. Наша справа зроблена, і мы з табою за нейкую гадзіну будзем на швейцарскай граніцы.

Дзверы неспадзявана адчыніліся, і ў пакой убегла Марыя-Луіза.

— Сіньёрэ генерал! Малю вас! Не рабіце гэтага! Гэта ўсё, што я маю!

Яна ўпала на калені перад Бертгольдам. На парозе з'явіўся, бы ў ваду апушчаны, Штэнгель.

— Гэта вы сказалі? — ціха спытаў Бертгольд Штэнгеля.

Той прамаўчаў.

Марыя-Луіза расплакалася, і Генрых кінуўся да графіна з вадою. У гэты момант за яго спіною прагучэлі два выстралы.

Марыя - Луіза расцягнулася на падлозе. Штэнгель упаў як падкошаны.

— Хадзем у іншы пакой, — спакойна запрапанаваў ён Генрыху. — Вы ўсе тут, у Італіі, нейкія мякенькія! Няўжо і ты стаў такім, Генрых?

— Не! — У мяне цвёрдасці хопіць на дваіх!

— План давядзецца змяніць. Пазвані Лемке, што абавязкі Штэнгеля пасля выбуху грэблі я даручаю яму. Замак бяру на сябе. Пасля таго, як аперацыя будзе выканана, неадкладна прыязджаю да грэблі і сустракаюся з табою.

(Працяг за тыдзень)

 




### ПАВЕЗЛА

Вярнуўся адзін селянін з заробкаў. Пачулі пра гэта суседзі і хутчэй да яго. Кожнаму цікава даведацца, дзе і што можна зарабіць. Прыходзяць, а селянін сядзіць на прызбе пад хатаю.

— Ну як? — пытаюць.

— Ды нічога. Крыху зарабіў. Праўда, грошай не прывёз, затое вопраткай разжыўся, — адказвае ён.

Людзі пераглянуліся паміж сабою, а ён падымае нешта з зямлі і кажа:

— Вось заробленыя нагавіцы.

— Што ж ты робіш?

— Гэтыя пару ды свае латаю.

*

### У СТАЛОЎЦЫ

Наведвальнік: — Што гэта такое, раней вы клалі ў боршч два кавалкі мяса, а цяпер толькі адзін?

Афіцыянт: — Выбачайце, напэўна кухар забыў яго разрэзаць.

### ПРЫКМЕТА

Нейк паслала маці дачку па ваду. Вяртаецца дзяўчына і яшчэ з парога кажа:

— Мама, мне ўжо замуж пара выходзіць.

— Што?! — перапытвае разгубленая маці.

— Кажу, мне ўжо замуж можна выходзіць. Нясу вось ваду, а дзед Панас да мяне: «Добры дзень».

*

### ЯКАЯ РОЗНІЦА

«Якая розніца, што хворая потым цэлы месяц лячылася амбулаторна. З бальніцы яна ж выпісана своечасова — на дзевяты дзень пасля аперацыі».

(З адказу на скаргу).

*

### ПАРАДЫ НАПАЛЕОНА

Як пачаў Гітлер парыцца, то пайшоў да Напалеона за парадай:

— Скажы, як мне ваяваць?

— З кім ты ваюеш?

— Ваюю з чырвонымі.

— Не ведаю, хто такія.

— Ну, з камуністамі...

— Не чуў і пра такіх.

— Ну, з рускімі.

— А-а, так бы ты і казаў. А куды ты дайшоў?

— Да Волгі...

— То лягай са мною побач.

### У МАГАЗІНЕ



— Вы так цудоўна намаўляеце да куплі, што я вырашыў узяць усё!..

# С А М

Аб культурным гандлі трубяць у нас у трубы ерыхонскія. Магазіны з самаабслугоўваннем растуць і размнажаюцца. Называюцца смешна — Самамі. Пустая гэта справа. Раней, бывала, у магазін зойдзеш, прывітаешся, аб пагодзе пагутарыш, знаёмых абгаворыш. А сёння што? Уваходзіш у магазін — навокал тавар. Хапай, што хочаш, і зматвай вудачкі. Калі перад таварам задумаешся, бяруць цябе на вока. Бы жуліка. Сочаць. Пакупнік гэта адчувае. Упэўненасць траціць. Без грамадзянскай гордасці адыходзіць з Сама.

З маім знаёмым здарылася такая гісторыя. Выпіў у буфеце піва. Плітку шакалада купіў. Унуку на пацеху.

Па дарозе дамоў зайшоў у Сам. Паводле гандлёвага распарадку, узяў кошык, улажыў у яго пачку макаронаў, падышоў да касы і плаціць за тавар.

У гэты момант падыходзіць прадаўшчыца. Сімпатычная чарнулька ў белым каптурку.

— Выбачайце, грамадзянін, — гаворыць, — вы забылі за шакалад заплаціць.

Знаёмы разгубіўся. Вымае з кішэні шакалад. Пярэчыць.

Брунетка разглядае шакалад і выводзіць:

— Наш тавар, з фабрыкі «22 ліпеня».

Навокал людзі збіраюцца. Прыглядаюцца. Другая прадаўшчыца падыходзіць. Абедзве дуэтам пяюць:

— Сорамна так, грамадзянін. Шэсць злацішак за макароны плаціце, а дзевятнаццаць за шакалад — забылі.

Нехта басіць:

— У морду такога і па нагах. Сумленным пакупнікам сорам прыносіць.

Нейкая грамадзянка дадае:

— Такім добра жывецца. Цягнуць, дзе трапляецца. Бедныя прадаўшчыцы за іх плацяць.

— Людзі мілыя, — гаворыць знаёмы, — я гэты шакалад у іншым месцы купіў!

— Правільна! — звоніць тэнар. — Я сам сведка. У мінулым месяцы ў Познані куплены гэты шакалад.

Людзі смяюцца. Знаёмага чэрці разносяць.

— Ідзем са мною, — прапануе, — пакажу, дзе купіў шакалад.

Плітка шакалада пераходзіць з рук у рукі. Прадаўшчыцы ўпіраюцца: наш шакалад, ды і толькі.

Бас прапануе:

— Давайце адгрызем. Па смаку акрэслім, чый будзе.

Смеху яшчэ больш.

Грамадзяначка вішчыць:

— Навошта валаводзіцца! Міліцыю клічце!

Тэнар крыўдуе:

— Ці ж міліцыя лепш ад нас разбіраецца ў шакаладзе?

Смех вырываецца на вуліцу і прыцягвае ахоўніка парадку.

Далей справа пакацілася з кінематаграфічнай хуткасцю. Міліцыянер са знаёмым накіраваўся ў буфет. У міжчасе буфетчык змяніўся. Намеснік яго нічога не ведаў пра шакалад. Знаёмы апынуўся ў камісарыяце. Склалі пратакол. Запісалі анкетныя даныя. Пабяцалі справу перадаць у суд.

Знаёмы два дні бегаў, як заяц, пакуль злавіў буфетчыка. Нарэшце ўсё высветлілася. Плітку шакалада вярнулі. Знаёмы прыняў гэта без радасці. Страціў смак да шакаладу. Унука таксама ўгаварваў: — У шакаладзе змешваецца горыч.

Унук гэтаму не верыць. Нічога дзіўнага. Ён яшчэ не ходзіць у магазіны з самаабслугоўваннем.

Дзядзька Лявоня

БАЙКА БАНАЎ

## Леў і асёл

Па лесе чутка
Праляцела хутка:
Вярнуўся з бітвы Леў...
без кіпцюроў!
На лоўлю ўжо не выйдзе цар звяроў!..
«Так яму і трэба!» — радасна зароў
Бязглузды малады Асёл.
«Без кіпцяў, кажаце? І-і-ігы! Папаўся!
Я адплачу яму цяпер за ўсё!»
І даўгавухі ў лес да Льва падаўся
І рэбры ўжо лічыць таму намерыўся,
ды-не паспеў:
Леў нават не ашчэрыўся,
падняўшы лапішчу, так сперануў,
што наш Асёл адно раўнуў
і... акалеў.

*

Мараль тут простая:
Леў і без кіпцяў — Леў.



— Не магу яго адвучыць, каб перастаў ён на рынгу расказваць анекдоты.

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Валі Буйноўскай** з Васількова, Гайнаўскага павета, змяшчаем закарпацкую народную песню

## КАЛЯ МЛЫНА



Тече вода каламутна,
Мила моя чогось смутна.
Я не смутна лем сердита, (2 разы)
Бо я сночі була бита

Била мене мамка сночі
За Іванкові чорні очі.
Ще й казала буде бити, (2 разы)
Щоб Іванка не любити.

Мамко моя зроб ми дашто,
За Іванком дуже тяжко.
Мени мати ворожила, (2 разы)
Взяла тичку та й набила.

Мамко моя солоденька,
І ти била молоденька.
Ти ходила так за нянньком, (2 разы)
Як я тепер за Іванком.

Тоби було легко, мати,
Між своими вибирати.
Ти вийшла за мого няньке, (2 разы)
Я люблю чужого Іванка.

А я Іванка так любую,
Де зыйдуся там цілую.
Ой Іване серце мое, (2 разы)
Не ма таких як ми двое.

Тече вода коло млина,
Мамко моя я не вінна,
Бо ми таки пасовани, (2 разы)
Як горнятка мальовани.

 